*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

**№ 93(675)**
Пятніца, 27 мая 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

# Народная Воля

Кошт: у кіёсках і крамах — 20000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.




**Суд**

## Стыдно!

На днях меня судили. Точнее, судила. Зенькевич Валентина Николаевна.

Молодая, красивая.

Я старался смотреть ей в глаза.

Она старалась смотреть в окно или в папку, на обложке которой был выведен номер моего судебного дела и написана моя фамилия.

Я — подсудимый, она — судья.

Она задавала вопросы, я — отвечал.

Убедительные монологи произнесли высокоподготовленный адвокат Татьяна Викторовна Станкевич и общественный защитник, известный журналист-юрист Юрий Топорашев.

За процессом наблюдал приехавший из Великобритании эксперт международной правозащитной организации "Артикул 19" угандец Стив Льветуте.

За неполных пятьдесят лет я ни разу не был судим. Казалось, юбилей встречу с чистой биографией.

Но... Суд длился около сорока минут. Последние десять-пятнадцать минут судья почти не смотрела в окно. Не смотрела она и на меня. Не привлекал ее и чернокожий Стив Льветуте.

Прикрывшись обложкой папки, она что-то писала или вписывала.

Когда мои защитники сказали последнее слово, судья, не объявив перерыва даже на одну минуту, не оторвав глаз от папки, стала скоропалительно зачитывать "приговор"...

Пятидесятилетие я встречу судимым. Оштрафован на пять миллионов рублей.

Уходя, еще раз глянул на судью. Она по-прежнему выглядела молодой и красивой. Она не смотрела в окно. Не смотрела она и на меня. Глаза ее смотрели в одну точку на столе.

Я демонстративно громко произнес: "С т ы д н о!" и вышел в коридор.

На улице заметил: черная кожа Стива Льветуте покраснела. От стыда.

За мою страну.

За наш суд.

За судью Валентину Зенькевич.

**Иосиф СЕРЕДИЧ,**
**учредитель и главный редактор газеты "Народная воля", лауреат международных журналистских премий.**

**P.S.** *Дорогой читатель! Я специально не стал рассказывать, за что же меня судила молодая, красивая Валентина Зенькевич. Вам об этом лучше расскажет эксперт Центра правовой защиты СМИ Белорусской ассоциации журналистов Юрий Топорашев.*

**Независимая экспертиза**

## Конвейер действует...

За что в Ленинском суде г.Минска судили главного редактора единственной республиканской ежедневной независимой газеты "Народная воля" И.П.Середича? Ему инкриминировалось правонарушение, влекущее ответственность по статье 167[3] Административного кодекса Республики Беларусь (штраф до десяти минимальных зарплат, или до двух месяцев исправительных работ с удержанием 20 процентов из заработка). Мотивировка нарушения — якобы призывал к бойкоту местных выборов.

Уважаемый главный редактор сам лично не написал на тему выборов ни одной строки. Его решили судить за то, что он как должностное лицо редакции дал согласие на публикацию материалов, в которых шел разговор на вышеназванную тему. Под заявлением представителей региональных общественных и политических организаций, опубликованном в "Народной воле" 24 марта, стоит, кстати, более двухсот подписей. Но что суду до мнения людей, представляющих самый широкий спектр населения Беларуси?

Да, в этом заявлении есть "призыв к бойкоту выборов". В документе шла речь о том, что для всех демократических сил было бы ошибочным принимать участие в **недемократических выборах** в местные Советы. Заметьте, ни одного слова о всеобщем бойкоте, тем более нет никаких прямых призывов.

Шли недели, никто никаких обвинений главному редактору не предъявлял. И вдруг его стали таскать по прокуратурам. Не трудно догадаться, по чьей указке.

И вот суд. Контрдоводы главного редактора И.П.Середича и представителей защиты строились на том, что в прокурорских представлениях произошла подмена (вольная или невольная — другой разговор) двух разных, по своей сути, понятий — неучастие в **недемократических выборах**, что логически предполагает бесспорное участие в демократических, и бойкот выборов как таковой, о чем и говорится в законе. Среди иных доводов, как обычно, упоминались конституционные положения о свободном распространении информации, соответствующие статьи Закона "О печати и других средствах массовой информации". В частности, защита сослалась на статью 47 Закона "О печати..." ("Случаи освобождения от ответственности"), где прямо говорится, что редактор и журналисты не несут ответственности за публикацию официальных документов и выступлений, в том числе общественных объединений и лиц, входящих в них.

Слушая И.Середича и его защитников, судья В.Зенькевич, как мне показалось, ничего не слышала. И слышать не хотела. Зачитывая решение, она подчеркнула, что в деле имеются все материалы, подтверждающие виновность главного редактора. О каких именно материалах говорила судья, так и осталось тайной. Если, конечно, не имелись в виду прокурорские постановления. Процесс против независимой газеты проходил в традиционном спринтерском темпе. Правосудие свершилось...

Не будем анализировать действия судьи Зенькевич с точки зрения "чистой" юриспруденции. Во-первых, это просто опасно, зная чрезмерную обидчивость и трепетное отношение к собственной чести и достоинству, а также стойкую защиту своей деловой репутации представителями многочисленной армии нынешнего белорусского чиновничества. Во-вторых, это просто бесполезно. Мы пытаемся говорить с властью на языке Закона, нас же приучают жить "по понятиям", соизмерять наши намерения и действия с пресловутой "целесообразностью текущего момента".

В течение последних двух месяцев ряду газет довелось пройти через серию судебных процессов. Их результаты со всей очевидностью вскрывают истинные намерения официальной власти строить свои отношения с прессой исключительно в силовом варианте.

Очевидно, что сегодня у демократической белорусской оппозиции осталась лишь одна возможность для общения с более-менее широкими слоями населения — независимые газеты. Только они могут позволить себе "роскошь" публиковать на своих страницах всестороннюю и объективную информацию о происходящих в стране процессах. Что, кстати, является основной обязанностью журналистов перед обществом. Закон именно так определяет назначение и регулирует деятельность СМИ.

Власть, желая максимально оторвать оппозицию от народа, стремится, в первую очередь, отторгнуть ее от средств массовой информации. Самый простой и эффективный способ — насмерть запугать не зависимые от государства газеты. Показать им, что любой информационный контакт с оппозиционными силами чреват для прессы весьма неприятными последствиями. Судебные преследования независимых газет — лишь один из способов.

Нас, независимых журналистов, втягивают в политическую борьбу. Каждая из сторон стремится перетянуть нас в свой лагерь или, по крайней мере, превратить в нейтралов-молчунов.

И то и другое — противоестественно, противоречит самой общественной природе института свободной прессы.

Очередной судебный процесс со всей очевидностью показал: наивным было бы полагать, что нынешняя власть по каким-то причинам однажды ослабит свое давление на независимые СМИ. Скорее всего, этот неистовый натиск будет усиливаться и расширяться. В этой ситуации, хотя видна тщетность и бесплодность многих наших усилий, мы обязаны трудиться в рамках закона. Хотя бы для того, чтобы оставить побольше свидетельств о борьбе белорусских журналистов за свои права и свободы. На будущее — пригодится...

**Юрий ТОПОРАШЕВ,**
**эксперт Центра правовой защиты СМИ при Белорусской ассоциации журналистов.**

## Нацыянальны выканаўчы камітэт ("ценявы ўрад") пачынае рыхтаваць канцэпцыю нацыянальнага развіцця Рэспублікі Беларусь

Спецыяльная камісія, якая зоймецца распрацоўкай канцэпцыі нацыянальнага развіцця Рэспублікі Беларусь, створана на прайшоўшым 25 траўня ў Мінску пасяджэнні Нацыянальнага выканаўчага камітэта — "ценявога ўрада". Узначаліў яе выконваючы абавязкі кіраўніка НВК Мечаслаў Грыб. Яго намеснікам стаў кіраўнік рабочай групы ў межах створанай камісіі Сяргей Леўшуноў. Да працы над канцэпцыяй будуць прыцягнуты не толькі члены НВК, але і эксперты, у тым ліку працуючыя ў дзяржаўных установах.

**Уладзімір ГЛОД.**

## Задачы, пастаўленыя перад сельскай гаспадаркай Брэсцкай вобласці, падаюцца спецыялістам нерэальнымі

Перад гаспадаркамі Брэсцкай вобласці пастаўлена задача да 1 чэрвеня выйсці на леташні ўзровень па продажы малака дзяржаве; да 15 чэрвеня — па яго вытворчасці, а да канца года — на ўзровень 1995 года па пагалоўі буйной рагатай жывёлы.

Адначасова статыстыка прайшоўшых месяцаў гэтага года — несуцяшальная і сведчыць аб працягу рэзкага спаду вытворчасці ў калгасах і саўгасах вобласці. Так, за студзень—красавік сярэдні ўдой з каровы знізіўся ў параўнанні з аналагічным леташнім перыядам на 40 кілаграмаў і сёння валавая вытворчасць малака складае 90 працэнтаў да ўзроўню 1998 года.

Істотна знізілася, у параўнанні з траўнем 1998 года, пагалоўе буйной рагатай жывёлы — на 34 тысячы галоў. Прыплод, атрыманы ад кароў у першым квартале гэтага года, знізіўся на 4,5 тысячы галоў.

Першым няшчасцем, што абрынулася на жывёлаводаў сёлета, стаў недахоп кармоў зімой; затым дадалася яшчэ адна бяда — атрутныя мошкі. Ад іх укусаў пацярпелі каля 5 тысяч галоў у грамадскім і асабістым статку Брэстчыны. Новыя клопаты прынеслі травеньскія замаразкі — падмёрзлі травы, і спадзявацца на тое, што першы ўкос будзе багатым, ужо немагчыма.

Хутчэй за ўсё, не ўдасца сёлета павялічыць, як планавалася, і нарыхтоўку кармоў на зіму. Такім чынам, на думку спецыялістаў, выканаць пастаўленыя задачы наўрад ці рэальна.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Кожнае чацвёртае прадпрыемства — стратнае

Па стане на 1 красавіка 1999 года ў Беларусі было 2 722 стратных прадпрыемства — 24,6 працэнта ад іх агульнай колькасці. Сума страт па іх склала 31,2 трыльёна рублёў. Пра гэта сведчыць Міністэрства статыстыкі і аналізу.

Найбольшая ўдзельная вага стратных прадпрыемстваў — у сферы сувязі (55,6 працэнта ад іх агульнай колькасці ў галіне), у невытворчых відах бытавога абслугоўвання насельніцтва (43,1 працэнта), у сельскай гаспадарцы (39,1) і на транспарце (27,6 працэнта). У прамысловасці па выніках першага кварталу гэты паказчык быў роўны 13,6 працэнта.

Доля стратных прадпрыемстваў сярод тых, што размешчаны па-за Мінскам, прыкметна вышэйшая (да прыкладу, у Магілёўскай вобласці яна складае 33,4 працэнта, у Віцебскай — 31,8).

## 30 мая ў Мінску пройдзе маладзёжны пікет супраць прымусовага размеркавання выпускнікоў вышэйшых навучальных устаноў

30 мая, з 11.00 да 13.00 гадзін, на плошчы Якуба Коласа ў Мінску пройдзе санкцыянаваны гарадскімі ўладамі пікет супраць прымусовага размеркавання выпускнікоў вышэйшых навучальных устаноў. Падрыхтоўкай акцыі займаецца Беларуская сацыял-дэмакратычная моладзь "Маладая Грамада".

Як паведаміў выконваючы абавязкі старшыні "Маладой Грамады" Сяргей Марцэлеў, асноўная мэта пікетавання — выказаць пратэст супраць прымусовага размеркавання моладзі ў раёны, што падвергліся радыеактыўнаму забруджванню пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС.

Гэта ўжо не першая спроба "Маладой Грамады" прыцягнуць увагу да дадзенай праблемы. Яшчэ ў красавіку ў Мінгарвыканкам паступіла заяўка ад БСДМ на правядзенне маладзёжнай акцыі пратэсту, аднак тады гарадскія ўлады адмовіліся яе санкцыянаваць. С.Марцэлеў спадзяецца, што ініцыятыва маладых сацыял-дэмакратаў будзе падтрымана іншымі маладзёжнымі арганізацыямі рэспублікі, у першую чаргу — Грамадзянскім форумам і Маладым фронтам, якія разам з БСДМ уваходзяць у аб'яднанне "Маладая Беларусь".

**Юрый ПАЦЁМКІН, БелаПАН.**

## Друкарня Жлобіна адмовілася друкаваць незалежную газету "Гомельская думка"

Друкарня горада Жлобіна адмовіла ў праве друкавацца незалежнай газеце "Гомельская думка". Варта адзначыць, што гэта ўжо чацвёртая адмова, атрыманая за 8 месяцаў існавання газеты.

У інтэрв'ю дырэктар друкарні Віталь Штульман назваў прычынай адмовы вялікую загружанасць прадпрыемства, якая не дазваляе друкаваць раз у два тыдні 1 000 асобнікаў "Гомельскай думкі". Разам з тым ён даў зразумець, што ініцыятарам гэтага рашэння з'яўляецца кіраўніцтва абласнога ўпраўлення па друку.

Начальнік упраўлення па друку Гомельскага аблвыканкама Рыгор Сцепаненка ў сваю чаргу заявіў, што ў вобласці няма магчымасці друкаваць "Гомельскую думку", пасля чаго адмовіўся абмяркоўваць дадзеную тэму.

Паводле звестак БелаПАН, рэдактар "Гомельскай думкі" Уладзімір Вярбовікаў збіраецца друкаваць газету ў Мінску.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ, БелаПАН.**

## У Беларусі працягваецца змяншэнне насельніцтва

За студзень—сакавік 1999 года колькасць насельніцтва Беларусі скарацілася на 12 тысяч чалавек. Паводле звестак Міністэрства статыстыкі і аналізу, гэта абумоўлена перавышэннем колькасці памерлых над народжанымі (на 17,5 тысячы чалавек). Гэта значыць, цяпер у краіне пражывае каля 10 мільёнаў чалавек.

Натуральнае змяншэнне насельніцтва назіраецца ў краіне з 1993 года. За гэты час колькасць жыхароў зменшылася прыкладна на 300 тысяч чалавек. У параўнанні з першым кварталам 1998 года, у студзені—сакавіку 1999-га колькасць памерлых узрасла на 14 працэнтаў.

Спецыялісты, у прыватнасці, адзначаюць высокі рост смяротнасці ў мужчын ва ўзроставых групах, што набліжаюцца да выхаду з працаздольнага ўзросту (50—59 гадоў). У 1998 годзе чаканая працягласць жыцця ў мужчын Беларусі пры нараджэнні складала 62,7 года супраць 67,9 года ў 1997 годзе. Сярэдняя працягласць жыцця жанчын за гэты перыяд павялічылася на 0,1 года і дасягнула 74,4 года. Такім чынам, розніца ў працягласці жыцця мужчын і жанчын у Беларусі ўзрасла да 11,7 года.

Асноўнымі прычынамі смяротнасці насельніцтва краіны застаюцца хваробы сістэмы кровазвароту (у 55 працэнтах выпадкаў) і новаўтварэнні (у 12 працэнтах выпадкаў). У студзені—сакавіку 1999 года назіраўся таксама рост смяротнасці немаўлят — 12,7 чалавека на 1000 народжаных.

**Сяргей СНЕГІН.**

*Баец спецназа стаіць каля парка Чалюскінцаў у Мінску 25 мая. Прычынай вобыскаў тэрыторыі і ачаплення яе салдатамі спецназа стала забойства міліцыянера Леаніда Касабуцкага.*
**Фота IREX/ProMedia.**

## У Мінску пры выкананні службовых абавязкаў забіты 22-гадовы супрацоўнік Партызанскага РУУС

25 мая, каля трох гадзін ночы, у Мінску пры выкананні службовых абавязкаў загінуў супрацоўнік Партызанскага РУУС, 22-гадовы міліцыянер роты патрульна-пастовай службы, старшы сяржант Леанід Касабуцкі.

Трагедыя адбылася ў раёне 2-га завулка Баграціёна. Двое супрацоўнікаў міліцыі, якія неслі дзяжурства, звярнулі ўвагу на грамадзяніна і паспрабавалі праверыць у яго дакументы, аднак той стаў уцякаць. Міліцыянеры пабеглі за ім. Л.Касабуцкі, праследуючы злачынцу, крыху адарваўся ад свайго напарніка. У гэты момант і раздаўся ракавы стрэл. Усё адбылося імкліва, напарнік не паспеў прымяніць зброю і злачынцу ўдалося ўцячы. Ён пабег у бок Батанічнага сада. На выгляд яму каля 25 гадоў, хударлявага целаскладу, цёмнавалосы, апрануты ва ўсё цёмнае.

Машына "Хуткай дапамогі", якую выклікаў міліцыянер, прыехала праз 20 хвілін і даставіла цяжка параненага Л.Касабуцкага ў 6-ю бальніцу, дзе ён і памёр.

У сувязі са здарэннем уся сталічная міліцыя была ўзнята па трывозе, ачэплены даволі вялікі раён горада, вядуцца аператыўныя дзеянні па вышуку злачынцы. Варта адзначыць, што за апошнія 10 дзён гэта ўжо другое забойства міліцыянера пры выкананні службовых абавязкаў у Мінску.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

**Памятайце!**

**У Беларусі ёсць адно штодзённае рэспубліканскае незалежнае выданне — "Народная воля".**
**Сёння Вы падтрымаеце газету, заўтра газета падтрымае Вас.**

***Падпіска на "Народную волю" на трэці квартал прымаецца ўсімі паштовымі аддзяленнямі, пунктамі "Белсаюздруку", альтэрнатыўнымі структурамі. Наш індэкс: 63222. Кошт: на месяц — 240.000 рублёў, на квартал — 720.000.***

**Вы — з "Народнай воляй", "Народная воля" — з Вамі!**

## Завяршаецца аднаўленне Свята-Мікалаеўскай царквы

Залачоны крыж падчас свята Мікалая Цудатворцы ўсталяваны 22 траўня над купалам Свята-Мікалаеўскай (Гарнізоннай) царквы, размешчанай на тэрыторыі мемарыяльнага комплексу "Брэсцкая крэпасць-герой". Гэты шматпакутны храм быў пабудаваны ў XIX стагоддзі на тэрыторыі фарпоста расійскай імперыі — Брэст-Літоўскай крэпасці — па праекце знакамітага архітэктара Давіда Грыма і доўгі час быў кампазіцыйным цэнтрам крэпасці. У 1886 годзе на адным з богаслужэнняў у праваслаўным храме прысутнічаў імператар Аляксандр III, які наведваў рускіх салдат.

Цяперашні вясной купал царквы быў пазалочаны, а ў прастольнае свята над ім заззяў крыж, выкананы вядомымі рэстаўратарамі — тымі, што працавалі над аднаўленнем храма Хрыста Збавіцеля ў Маскве.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

Пр. Лявона, Максіма, Мікіты, Сідара.
К. Магдалены, Аўгусціна, Юльяна, Яна.

85 гадоў з дня нараджэння А.П.Бялевіча (1914—1978), беларускага паэта.

**МАЙ**
**27**
**'99 ЧАЦВЕР**

Усход 4.50
Захад 21.25
Даўж. дня 16.35

Поўня 30 мая
Захад 5.03
Усход 19.16

**Стоп-кадр**

*Молодой человек держит портрет Михаила Чигиря, экс-премьер-министра, во время митинга в Минске. Акция была посвящена дню рождения находящегося в заключении бывшего премьер-министра и кандидата в президенты на выборах оппозиции 16 мая 1999 г. В мероприятии приняли участие около тысячи человек.*
**Фото IREX/ProMedia.**

**Демократия по-белорусски**

## Республика Беларусь больше не нуждается в личностях, которые борются со всем миром. Народу нужны созидатели

Сотни белорусских граждан пришли 24 мая 1999 года на площадь Якуба Коласа, чтобы поздравить с днем рождения Михаила Чигиря, находящегося в застенках режима. Не испугались они ни жандармских телеоператоров, снимающих персонально всех присутствующих на видеопленку, ни грозных прокуроров с генералом Куприяновым во главе, наблюдавших за участниками митинга из-за кустов сквера Янки Купалы.

Непередаваемо негодование людей, когда они услышали от жены узника Юлии Чигирь о "подарке" ко дню рождения, сделанном холуями режима: Михаилу Чигирю именно в день рождения, на неделю раньше срока, объявили о продлении на два месяца срока содержания под стражей. Унижение человека — весьма характерная черта нынешнего режима. Как сказала Юлия Станиславовна, нынешний глава государства завидует находящемуся за решеткой претенденту на его пост. Ведь Михаилом Чигирем будут гордиться и дети, и внуки, а вот как будут себя чувствовать потомки Александра Лукашенко?

На митинге выступил Юрий Ходыко, один из руководителей Белорусского народного фронта, и принес извинения жертвам избирательной кампании за поведение группы руководителей БНФ, действия которых не позволили в мае 1999 года довести до логического конца выборы главы государства. Юрий Викторович призвал все партии и движения объединяться вокруг Верховного Совета 13-го созыва.

Собравшиеся взялись за руки и, подняв их, приветствовали находящихся за решеткой Михила Чигиря, Андрея Климова, Владимира Кудинова, Василия Старовойтова, Василия Леонова и других жертв правящего режима. Как заметил парламентарий А.Лебедько, вместе с народом, поднятием рук передавали привет узникам и 15 сотрудников КГБ, находящихся среди участников митинга.

Аплодисментами встречены слова Владимира Бородача, председателя оргкомитета республиканского штаба по освобождению Михаила Чигиря: Республика Беларусь больше не нуждается в личностях, которые борются со всем миром. Народу нужны созидатели.

Похоже, что в стране рождается новая традиция: отмечать дни рождения шествиями и митингами в защиту прав человека. На первое такое обращение в прошлом году власти с возмущением ответили отказом. Но уже следующую акцию, приуроченную ко дню рождения Михаила Чигиря, санкционировали.

**Валерий ЩУКИН,**
**правозащитник.**

**Надвор'е**

27—28 мая па краіне захаваецца пераменная воблачнасць. Па ўсходніх раёнах караткачасовыя дажджы, месцамі навальніцы. Вецер заходні — 3—8 м/с. Тэмпература паветра ўначы — +4...+9, удзень +15...+20. 28-га — па паўночна-заходніх раёнах — +19...+21.

Народная Воля 27 МАЯ 1999 г.

А если...

# Сколько можно стоять в стороне?

**Уважаемая редакция!**

Прочитал "Зварот кіраўнікоў палітычных арганізацый, аб'яднаных у Каардынацыйны камітэт "Гродзенская ініцыятыва" ("Народная воля" № 78 от 5.05.1999 г), и это очень взволновало меня. Нарастает тревога за судьбу нашей Беларуси.

Но вот что я хочу сказать. В "Звароце", как и в иных обращениях и резолюциях, я не нахожу конструктивной части. Скажите, пожалуйста, умные люди: а что мне, простому человеку, делать, чтобы не наступило то, чего не хочет сознательная часть нашего народа, — поглощение Беларуси Россией? Бегать по соседям и звать: мол, выйдем сейчас на улицу и будем кричать "Нет — объединению"? Но меня никто не услышит и не послушает, я ведь не депутат, не общественный деятель. А вот от них я жду конкретных советов.

Они вот вроде опять сделали громкое заявление в очередном обращении, вышли на демонстрацию в Минске, Гродно — одни и те же люди. А в это время сотни тысяч граждан, переживающих за страну, чувствуют свое бессилие, поскольку не востребованы политическими лидерами. Закрадывается нехорошая мысль: неужели лидеры демократических партий так бездарны и не понимают, что надо идти к людям и объяснить им, что к чему. Ведь если взялись за гуж, так руководите! Иначе новые грядущие беды Беларуси будут и на вашей совести. Умные статьи в газете — это хорошо, но они не заменят кропотливой, повседневной работы с людьми.

У меня есть предложение: пусть руководство демократической оппозиции обратится к гражданам Беларуси через негосударственные газеты, листовки, беседы, чтобы в знак протеста против игнорирования властями Конституции, против готовящегося объединения с Россией (но — не вопреки дружбе с ней), против террора и вопиющего нарушения законов, демократии в определенный день и час — вечером — люди выключили свет в квартирах на 1—2 минуты. Таким образом будет продемонстрирована воля многих слоев народа, с которой верхам придется считаться. Это будет своеобразный референдум — не в юридическом, конечно, а в психологическом плане.

Не надо бояться. Дальше уж некуда, хуже, пожалуй, не будет.

**С уважением Ю.ЧИТАН.**
**Минск.**

Слышали?

# Как власти добивались присутствия на официальных митингах учеников десятых классов

Уважаемая редакция "Народной воли"! Напечатайте, пожалуйста, мое письмо, так как это единственный для меня шанс рассказать людям то, что я знаю, и публично обратиться к некоторым учителям, поступающим так же, как учителя и директор нашей школы.

Тем же педагогам, кто учит меня и других питомцев честности и правдивости, — огромное спасибо за их мужество, их порядочность и благородство.

А произошло вот что.

Двадцать девятого апреля наша классная руководительница объявила, что от нашего класса требуется как минимум 6—8 человек для участия в первомайском митинге. Если такого количества не наберется и ей придется плохо, угрожала она, то, следовательно, и она найдет способ "испортить нам жизнь...".

Всякий знает, что для учителя это проще пареной репы. Но тем не менее **никто** из нашего класса не выразил желания идти на митинг.

На следующий день классная продолжала запугивать нас. И только двое из 24 учеников сказали, что согласны. Тогда классная сказала, что всем "отказникам" надо писать объяснительные. На мой вопрос, является ли явка на митинг **добровольной**, учительница ответила, что все обязаны туда идти: на сей счет был получен соответствующий приказ сверху.

После этого "согласились" митинговать еще несколько учеников. Они решили: лучше уж два часа постоять на площади, чем ввязываться в конфликт с администрацией школы. Остальные, в том числе и я, стали писать объяснительные...

Вот так, с нарушениями прав человека, путем угроз и давления, администрация школы выполняла полученный от начальства "заказ". Ведь, как сказала нам классная, ни ей, ни директору это не надо, они лишь выполняют то, что им говорят вышестоящие.

Но разве это оправдание тому, что они совершили, фактически принудив часть учеников идти на митинг, а остальных заставив объясняться в письменном виде? Ведь участие в митинге, как и другом общественном мероприятии (если вы, уважаемые учителя, об этом до сих пор не знаете, то я вам говорю), — **сугубо личное дело каждого.** И никто не вправе требовать каких-то объяснений по этому поводу. Тем более заставлять идти туда, куда человек не хочет. То, что вы сделали, — это нарушение Конституции (не важно, 1994 или 1996 года), и нечего оправдываться какими-то приказами и прятаться за чужую спину! Неужели наши учителя доведены до такого состояния, что за подачку, за премию готовы делать все, что бы им ни приказали: нарушать Конституцию, закон, нормы морали, в конце концов? Так поступают рабы, а не свободные граждане!

...Потом по БТ транслировали первомайское шествие. Корреспондент спросил у девочки: "Скажи, никто не заставлял тебя сюда приходить?" — "Нет, никто, я сама пришла", — пролепетала она.

Мне было стыдно это слушать. А тысячи и тысячи учителей по всей стране, обеспечивающие присутствие "добровольцев" на митингах и демонстрациях в соответствии с приказом начальства, смотрели это по своим телевизорам. Неужели ни один из них, подобно герою рассказа Чехова "Человек в футляре", не сказал себе: "...Видеть и слышать, как **лгут** и тебя же называют дураком за то, что ты терпишь эту **ложь,** сносить обиды, унижения, не сметь открыто заявить, что ты на стороне честных, свободных людей, самому лгать, улыбаться, и все это из-за теплого угла, из-за какого-то чинишки, которому **грош** цена, — нет, больше жить так невозможно!"

Неужели вы, уважаемые наставники, так и останетесь игрушками в руках режима?..

**P.S.** На следующий день классная и директор все-таки, видимо, осознав, что они перегнули палку, сказали, что никого ни к чему не принуждали, а только "просили". И никого они не будут "валить". Решили все-таки подстраховаться на всякий случай. Ну когда митинг уж прошел, можно и поиграть в "демократию"... до следующего митинга.

**Ваш постоянный подписчик, ученик 10-го класса Виктор (имя в подписи, по понятным причинам, я изменил).**

**Гродно.**

Адкрыты ліст

# Не, Зянон Станіслававіч, я больш маўчаць не магу...

Добры дзень рэдакцыя газеты "Народная воля", Іосіф Сярэдзіч і журналісты! Усім Вам маё прывітанне і нізкі паклон.

Я пішу ў газету ўпершыню. Збіралася і раней напісаць, але не магла адважыцца. Пачуўшы 14 мая па радыё "Свабода" спадара Зянона Пазьняка, я больш не магу маўчаць. Можа, мне лягчэй будзе, калі я падзялюся думкамі з табой, мая любімая газета.

Але ўсё па парадку.

Я хацела б праз "Народную волю" звярнуцца з пытаннем да Зянона Станіслававіча: як жа Вы маглі такое гаварыць, што здымаеце сваю кандыдатуру ў прэзідэнты і што выбары незаконныя? Чаму ж Вы раней гэтага не зрабілі, а за два дні да канца выбараў? Як жа Вам не сорамна абліваць брудам цэнтрвыбаркам, даваць загад, каб спынілі выбарную кампанію людзі Беларускага народнага фронту?

Няўжо Вы лічыце, што Вы самы аўтарытэтны і самы разумны чалавек на Беларусі? Няўжо Вы думаеце, што ўсе дэпутаты, якія ў апазіцыі, нічога не разумеюць у законах? Дык вось, на маю думку Вы, спадар Пазьняк, памыляецеся. Ніколі не трэба выхваляць сябе, няхай лепш людзі пахваляць. Я раней верыла Вам, вашай справе, якую Вы праводзілі, але пасля таго як Вы, Зянон Станіслававіч, схаваліся за мяжу, пакінулі ўсіх, хто Вам верыў, то і ў мяне прапала вера. Я плакала, калі прачытала ў "Народнай волі" Ваш загад вывесці з сойму БНФ Таццяну Ваніну і Юлію Чыгір. А цяпер, калі слухала Ваша інтэрв'ю па радыё, дык прымала лекі ад сэрца, а ўнук, якому тры з паловай гады, мяне супакойваў: "Бабуля, не плач".

Людцы добрыя, што ж гэта робіцца на нашай беднай Беларусі?!

Зянон Станіслававіч, Вы заўсёды паўтараеце: наша Бацькаўшчына, наша Беларусь... Дык вось Вы, спадар Пазьняк, сваёй Бацькаўшчыне здрадзілі, Вы пабаяліся міліцэйскіх дубінак, пабаяліся трапіць за краты. Вы спакойна там пачуваеце, а тут людзі пакутуюць, сябе не шкадуюць, рызыкуюць сваім жыццём. Колькі ўжо адсядзела людзей за кратамі, а колькі яшчэ сядзіць і ўсе — нявінныя. І Вы, спадар Пазьняк, лічыце сябе лідэрам БНФ? Усе лідэры тут, на Беларусі. Маладзенькія хлопцы не баяцца турмы, а Вы, чалавек у гадах, і так баіцеся турмы. Мой сын таксама не баяўся, ішоў, можна сказаць, на смерць, калі трымаў сухую галадоўку, і адсядзеў 10 месяцаў за кратамі за напісаны твор, які не спадабаўся гэтаму рэжыму.

Я таксама нічога і нікога не баюся. Я езджу ў Мінск на мітынгі, на пікеты. Дык мне трэба 2 гадзіны ісці на станцыю да цягніка, а потым яшчэ 4 гадзіны ехаць. І я грошы не шкадую на дарогу, я рада, што пабуду разам з добрымі людзьмі. Паслухаю на мітынгу выступленні разумных апазіцыянераў.

Мне раней многія ў нас гаварылі, што навошта ты ездзіш, Пазьняк жа ўцёк, і навошта гэта вам, але тады я магла даць адказ. А вось сёння, калі ў мясцовай краме двое мужчын сказалі мне, што дарэмна я езджу на мітынгі, Пазьняк жа ўжо сам разганяе вас, я ім не змагла нічога адказаць і пайшла з магазіна, нічога не купіўшы.

Вы ўжо прабачце, Зянон Станіслававіч, мне, старой жанчыне, за адкрытасць.

Можа, каму-небудзь і іншаму не спадабаецца мая душэўная споведзь, але няхай прабачаць — не магу маўчаць.

Прабачце, шаноўны рэдактар, за мае такія думкі. Я маю нізкую адукацыю і, магчыма, не валодаю шырокімі палітычнымі ведамі.

**Юзэфа Паўлаўна АДАМОВІЧ-ЧАНТАРЫЦКАЯ.**
в.Альхоўка Мядзельскага раёна.

**Ад рэдакцыі:** *Юзэфа Паўлаўна Адамовіч-Чантарыцкая — маці вядомага палітвязня Славаміра Адамовіча. І, думаецца, яна мае маральнае права на такі шчыры, адкрыты ліст.*

За кубачкам кавы з Марынай КОКТЫШ



# Генадзь ДАВЫДЗЬКА: "Я павінен быць "жонкай"...



*Генадзь Давыдзька лічыць, што з таго моманту, як ён заняў крэсла дырэктара Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, справы тут пайшлі на лад. Што лепш за яго ў рэспубліцы ніхто не правядзе ні прэзентацыю, ні ўрадавы канцэрт. Гэта, між іншым, усе добра ведаюць, у тым ліку і прэзідэнт. Што тэатр не павінен займацца палітыкай, але ён мусіць думаць так, як хоча дзяржава.*

*З Давыдзькам можна пагаджацца ці не пагаджацца, але асабіста мне некаторыя разважанні Генадзя Браніслававіча паказаліся даволі цікавымі. Тым больш падкрэслю: гэта гаворыць не проста чыноўнік, вядучы, шоумэн ці акцёр, які сыграў князя Вітаўта, а дырэктар першай драматычнай сцэны Беларусі.*

**— Генадзь Браніслававіч, пасля некаторых спектакляў Вы выходзіце на сцэну і ўрачыста прамаўляеце: "Кветкі ад Аляксандра Лукашэнкі!" Ці не адчуваеце Вы пры гэтым нейкую няёмкасць?**

— Ніколі не задумваўся над гэтым... Мне заўсёды прыемна, калі прэзідэнт дорыць кветкі. А што з таго? Гэтага прэзідэнта абраў народ. Дык вось вам, народ, кветкі ад прэзідэнта. Звярніце ўвагу, як апладыруе пасля гэтага глядзельная зала. Калі ўжо гаварыць пра прэзідэнта, пра асобу — ён прыгожы, моцны, гаворыць, што думае. І ў Расіі яго любяць. Мая маці, мой бацька галасавалі за яго. Мае бацькі далі мне гэтага прэзідэнта. Дый я пакуль не бачу людзей, якія могуць заняць яго месца...

**— На Ваш погляд, ці здольны сапраўдны тэатральны кіраўнік весці сваіх падначаленых да творчых перамог, не знаходзячы агульнай мовы з існуючай уладай?**

— Гэта немагчыма ў прынцыпе. Нацыянальны тэатр — першая жонка дзяржавы, якая павінна класціся спаць са сваім мужыком у адзін ложак. Астатнія тэатры могуць быць палюбоўніцамі ці добрымі сяброўкамі. Але жонку трэба ўпрыгожваць, любіць, клапаціцца пра яе...

**— Вы мне прабачце, але ж нешта ў нас першая "жонка" не надта дагледжаная...**

— Крыўдзіцца няма чаго. Як жывём, так жывём. Усё ж такі, пакуль што дзяржава тэатр падтрымлівае. Напрыклад, на Украіне тэатральнае мастацтва ўвогуле знаходзіцца ў глыбокім заняпадзе. Прыкладна такое ж становішча ў Нацыянальным тэатры Латвіі, дзе вымушаны рабіць па 17 прэм'ер на год. Можаце ўявіць, якой яны якасці: гэта амаль што літаратурныя чытанні. Нават Нацыянальны тэатр Японіі зараз перажывае фінансавы крызіс.

Упэўнены: кіраўнік любога дзяржаўнага тэатра — чалавек залежны. І я не магу сказаць, што Давыдзька — выключэнне. Я вельмі залежны чалавек. Ад мяне залежаць 230 чалавек, якія працуюць у тэатры. Іх дабрабыт, іхні спакой, іхняя будучыня. І таму, адчуваючы гэтую залежнасць, я вымушаны любіць тое, што трэба любіць. Калі мяне кінуць на іншую пасаду, я магу там быць вольным, але ж... Я павінен быць "жонкай"...

**— Вам не здаецца, што Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы марудна памірае. Няма выбітных пастановак, не адчуваецца ніякага запалу, страсці...**

— А які запал можна мець, атрымліваючы такі заробак? У тэатры ёсць выпадкі, калі акцёры падпрацоўваюць зусім не на ніве мастацтва. Але там яны не кажуць, што артысты...

Нашы акцёры ў сярэднім зарабляюць каля сямі мільёнаў. У тэатры працуюць апантаныя людзі — на гэтыя грошы яны кормяць свае сем'і. Але ж я ганаруся, што купалаўцы столькі зарабляюць. Бо акцёры іншых рэспубліканскіх тэатраў атрымліваюць па тры-чатыры мільёны... Для параўнання: у Расіі акцёрам плацяць у два-тры разы больш.

**— Між іншым, у сувязі з аб'яднаннем Расіі і Беларусі Нацыянальны тэатр імя Янкі Купалы часам не прыйдзецца перайменаваць у нейкі іншы?..**

— Калі раптам мы і аб'яднаемся, то, спадзяюся, на гэты час у Маскве ўжо будзе сядзець спадар Лукашэнка, які будзе добра ставіцца не толькі да тэатра, але і да беларусаў увогуле. У нашым тэатры сабраныя лепшыя акцёры беларускай нацыі. І яго так песціць трэба дзяржаве...

**— Вы з такім імпэтам гэта вымавілі... Можа, у бліжэйшай будучыні паставіце спектакль, ухваляючы пэўны палітычны рэжым? Каб выжыць, атрымаць грошы...**

— Калі з'явіцца такая магчымасць — з задавальненнем. Хаця як чуллівай жывой істоце тэатру ад гэтага стане горш. Па шчырасці, я супраць, калі тэатр займаецца палітыкай. І справа тут не ў грошах. Сапраўднае мастацтва не прадаецца. А мастакам за ўсе тыя аднаднеўкі, пастаўленыя і знятыя па палітычных заказах, мастакам потым сорамна робіцца... Дзяржаўны тэатр павінен думаць так, як хоча дзяржава. Праўда, не пад прымусам... Таму калі мне прапануюць высокамастацкі сцэнарый, я пастаўлю спектакль.

**— Некаторыя шчыра здзіўляюцца: дырэктар Нацыянальнага акадэмічнага тэатра, у мінулым выдатны акцёр, а скача на святочных прэзідэнцкіх вечарынах як марыянетка... Сапраўды, ці не адчуваеце Вы сябе прыніжаным, калі выступаеце ў ролі вядучага, скажам, на прэзентацыі посуда кампаніі "Цэптар"?**

— А вы заўважылі, як класна я гэта раблю? Я ўзвышаю сваёй прысутнасцю гэтыя мерапрыемствы. Між іншым, што ў гэтым заганнага? Я — акцёр, рэжысёр, сцэнарыст, паэт, вядучы. Я творчы чыноўнік. Я "Ферары", а не ўрадавая "Чайка". Я магу займацца ўсім. І хачу займацца ўсім. У рэшце рэшт, я павінен паказваць, як гэта робіцца. Бо лепш за мяне ў рэспубліцы ніхто не правядзе ні прэзентацыю, ні ўрадавы канцэрт. Гэта, між іншым, усе добра ведаюць, у тым ліку і прэзідэнт.

**— Не баіцеся, што калі раптам станеце няўгодным рэжыму, Вас "уйдуць" і дзякуй не скажуць?**

— Як я магу стаць няўгодным уладзе? Сённяшняя ўлада мяне як чыноўніка цалкам задавальняе. Калі камусьці прыйдзе ў галаву мяне зняць, Божа мой, я ж такім вольным чалавекам адразу зраблюся! Заняўшы дырэктарскае крэсла, я рэзка пачаў губляць у грошах. Я лічу так: калі пагадзіўся быць дырэктарам, павінен займацца гэтым да смерці. Інакш няма чаго было зусім сюды садзіцца.

**— Які спектакль на сённяшні дзень з'яўляецца візітоўкай Купалаўскага тэатра?**

— "Паўлінка". Ён існуе з 1943 года, яго паказвалі больш за тысячу разоў, ужо пятае ці шостае пакаленне Паўлінак змянілася. Але ж ходзяць на яго, і аншлагі суцэльныя, апладысменты! У Гродна нядаўна ездзілі на гастролі — на "Паўлінку" там было цяжка дастаць білеты! Зараз мы плануем "Паўлінку" музеефікаваць, зрабіць гэты спектакль сапраўднай візітоўкай краіны.

**— Калі не сакрэт, у Купалаўскім тэатры кожная пастаноўка стратная?**

— У дзяржаўнай сістэме ўсе пастаноўкі стратныя. Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы як галоўная драматычная сцэна рэспублікі, канешне, ставіць самыя дарагія спектаклі. Нам гэта дазволена, таму што мы павінны паказваць узровень. Паставіць спектакль танней за тры тысячы долараў немагчыма. Самая дарагая наша пастаноўка — "Князь Вітаўт" — каштавала сорак тысяч долараў. Дарэчы, у Маскве ўжо спектакляў танней за сто тысяч долараў не існуе.

**— Генадзь Браніслававіч, не зайдросна, што нехта на вашай сцэне ставіць спектакль "ART", а культавых, модных спектакляў у тэатры імя Янкі Купалы, па сутнасці, няма?**

— Па-першае, гэты спектакль зрабіў наш рэжысёр Мікалай Пінігін, які сапраўдным рэжысёрам стаў менавіта ў гэтым тэатры, і наш акцёр Віктар Манаеў. Пры дапамозе, канешне, Сяргея Жураўля і Ігара Забары. Я дазволіў ставіць "ART" на нашай сцэне і не супраць яго паказу таму, што гэта добры спектакль. А па-другое, "ART" цалкам мог быць спектаклем Купалаўскага тэатра. Але ж я з самага пачатку быў супраць таго, каб у нашым тэатры былі спектаклі на расійскай мове. Пад шыльдай Нацыянальнага тэатра павінны ісці спектаклі выключна на беларускай мове.

**— Дарэчы, наконт шыльды. Што ў тэатры ёсць сапраўды нацыянальнага? Колькі, на Ваш погляд, у цяперашнім тэатры імя Янкі Купалы менавіта "купалаўскага духу"?**

— Дух цалкам нацыянальны, купалаўскі. Але ж нацыянальная ідэя выпрацоўваецца стагоддзямі. Нацыянальная годнасць кожнага беларуса павінна быць на максімальна высокім узроўні. Беларусы, нягледзячы ні на што, павінны захаваць сваю самасвядомасць. Яны павінны проста выжыць як нацыя. І задача тэатра — дапамагчы гэта зрабіць. Звярніце ўвагу на моладзь — па-беларуску амаль што ніхто не гаворыць. Я сам палову дня размаўляю па-беларуску, а палову дня па-руску. Амаль усе дзяржаўныя чыноўнікі размаўляюць са мной па-руску. І я з імі таксама. Каб не раздражняць...

**— Нешта даўно ў вашым рэпертуары не было бачна спектакля "Тутэйшыя". Чула не вельмі прыгожую гісторыю наконт таго, быццам бы яго знялі з рэпертуара па палітычных матывах. Дакладней — з-за бел-чырвона-белых сцягоў, якія лунаі на сцэне...**

— Гэта гістарычны спектакль, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі. І ён ідзе і будзе ісці, таму што гэта — п'еса Купалы. "Тутэйшыя" ў нашым чэрвеньскім рэпертуары. У нас ужо ёсць дамоўленасць з рэжысёрам Мікалаем Пінігіным, які да чэрвеньскай пастаноўкі, спадзяюся, яго крыху прычэша. А што датычыць фіналу, дзе людзі крычаць "Жыве Беларусь!"... Я вывучаў гэта... У асноўным на "Тутэйшых" прыходзяць школьнікі. Яны ідуць у тэатр пад прымусам настаўніцы. І раптам у канцы спектакля некаторыя з іх ускокваюць і з задавальненнем у вуха сваёй настаўніцы крычаць тое, што забаронена: "Жыве Беларусь!" Яны такім чынам проста помсцяць за сваю няволю, за тое, што правялі вечар не па сваіх планах.

Ведаеце, калі я кагосьці кахаю, я не буду крычаць пра гэта на плошчы. А яны не ведаюць, што робяць...

**— Вы марылі запусціць на расійскім тэлебачанні гумарыстычную перадачу з удзелам купалаўцаў. Да таго ж планавалі на базе кожнага тэатральнага спектакля, які здымаецца з рэпертуару, рабіць тэлесерыял. Ці спраўдзіліся мары?**

— Для гэтага мне патрэбна свая невялічкая тэлестудыя. А грошай няма...

**— Нядаўна адзін вядомы беларускі акцёр у роспачы сказаў, што тэатр — гэта адзін суцэльны гадзючнік. Як можна кіраваць гадзючнікам?**

— Так называюць тэатр тыя, у каго не адбыўся творчы лёс, каму не пашчасціла. Асабіста ў мяне лёс склаўся. Таму, напэўна, і тэатр мне ўяўляецца вялізнай залатой клеткай з цудоўнымі птушкамі. І не заўжды папугаямі. Усе, хто працуе ў тэатры, — незвычайныя людзі. І кіраваць імі ў звычайным сэнсе гэтага слова не атрымоўваецца. З імі можна сябраваць, ладзіць ці не ладзіць.

**— У перспектыве Давыдзька бачыць сябе міністрам культуры?**

— Не. Пакуль я выношваю творчыя планы. Мне вельмі хочацца паставіць "Маньку" Аляхновіча ў жанры "блюз". Хочацца сёе-тое напісаць, рэалізаваць тэлевізійны праект, зрабіць папулярнымі лепшых купалаўскіх акцёраў. Я свядома адчуваю: ніхто, акрамя мяне, гэтага не зробіць. Нашыя знакамітыя, таленавітыя акцёры старэюць, іх не здымаюць, ім не прапаноўваюць роляў. А ў нас быццам бы ўсё нармальна. І кінастудыя наша квітнее, і грошы ёсць. Прыязджаюць розныя там Мацвеевы, бяруць нашыя дзяржаўныя грошы, здымаюць свае расійскія карціны, дзе ў масоўцы раз-пораз можна заўважыць твар нашага беларускага акцёра, можа, куды больш таленавітага за сваіх маскоўскіх калег...

P.S. *Калі матэрыял быў ужо падпісаны ў друк, галоўны рэдактар даў яго пачытаць паэту Леаніду Дранько-Майсюку. Прачытаўшы, Леанід Васільевіч сказаў: "Максім Гарэцкі меў рацыю — дзве душы, якія месяцца ў адной фізічнай абалонцы, ператвараюць спакой у мітусню. Робяць нас няпэўнымі. І таму зусім натуральна тое, што палову дня мы размаўляем па-беларуску, а палову дня — па руску; цешымся, што прэзідэнта Лукашэнку любяць у Расіі і разам з тым крыўдзімся на розных там Мацвеевых, якія гвалтоўна захопліваюць пазіцыі на беларускай кінастудыі...*

*Давайце яшчэ раз перачытаем Гарэцкага, каб у праўдзівым люстэрку ягонай цудоўнай прозы ўбачыць — што ёсць наш нацыянальны спакой і што ёсць наша нацыянальная мітусня...*

*Чыноўнік Г.Б.Давыдзька мне невядомы; я люблю акцёра Генадзя Давыдзьку, мне блізкі таксама і ягоны рэжысёрскі стыль.*

*Маё будучае шчасце — убачыць на сцэне, любімай купалаўскай сцэне, п'есу Ф.Аляхновіча "Манька"...*

Стоп-кадр

*Минск. Троицкое предместье.*

Прэм'ера!

# На "Вольнай сцэне" — "Стомлены д'ябал"

Гэты тэатральны сезон для Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі "Вольная сцэна" быў, мякка кажучы, не багаты на прэм'еры. Прычына ўсім вядомая: каго клапоціць мастацтва, калі ў дзяржаве канкрэтна і надоўга замацаваўся крызіс? Але між тым сталічныя тэатралы жывуць прадчуваннем цуду — не таму, што чакаюць ужо даволі доўга (прэм'ера планавалася на канец лістапада), а таму, што рэжысёрам гэтага незвычайнага дзейства з'яўляецца Рыд Таліпаў. А гэтае імя нешта ды значыць у тэатральным мастацтве нашай краіны. Яно ў нейкай ступені раскадзіроўвае будучы спектакль: арыгінальна, неардынарна, неверагодна.

Матэрыялам для фантасмагорыі Рыда Таліпава стала п'еса сучаснага беларускага драматурга Сяргея Кавалёва "Стомлены д'ябал" ("Дзверы"), які ўжо вядомы нам па п'есе "Заложніца кахання". П'еса "Стомлены д'ябал" складаецца з разнастайных элементаў з твораў К.Марашэўскага, Я.Купалы, Ф.Аляхновіча, між тым яна падпарадкавана агульнай задуме: распавесці універсальную, але разам з тым беларускую гісторыю пра звычайнага чалавека, пра ягоныя пошукі шчасця і прычыны няшчасцяў. П'еса С.Кавалёва каштоўная яшчэ і тым, што ў ёй зроблена спроба філасофскага асэнсавання жыцця. Драматург імкнецца выявіць карані дабра і зла, звяртае ўвагу на суадносіны мары і рэчаіснасці.

Адвечная праблема экзістэнцыі (яна актуальна як для чалавека XVII стагоддзя, так і ў нашы дні) застаецца заўсёды сучаснай. У спектаклі занята ўся трупа тэатра, і амаль усе акцёры выступаюць у незвычайнай якасці, бо дэвізамі Рыда Сяргеевіча на рэпетыцыях былі: шукаць логіку ў алагічнасці, адыходзіць ад быту, знайсці паэзію ва ўсім. Спектакль "Стомлены д'ябал" і ёсць той доўгачаканы падарунак гледачу напрыканцы тэатральнага сезона.

**Ірына ЛАПЕЦЬ.**

Чувства века

*Анна СОУСЬ*

**Если бы можно было физически помнить боль, наверное, ни одна женщина не решилась бы второй раз родить ребенка.**





# БОЛЬ

Если бы люди не знали, насколько страшна и разлагающа бывает боль, не были бы придуманы самые изуверские и садистские пытки, превращающие человека в послушное и жалкое животное.

Если бы судьба периодически не посылала нам испытание болью, легкомысленное человечество так и не познало бы в этом горьком сравнении настоящий вкус жизни, не приправленный болью.

В чем ты видна и чем ты окрашена, мучительница-боль? В резком сжатии губ, в испарине на лбу, в безмолвном скрежете зубов, в диком крике, в тумане отчаяния, в сжатых до судорог, до кровавых ногтей кулаках, в бессмысленном взгляде, в безнадежном молчании. В материнских слезах, в детской истерике, в приговоре рентгеновского снимка, страшной записи в медицинской карте, в жалеющих взглядах окружающих. Во всем этом ты — *боль...*

Перед болью все равны. Богатые и бедные, красивые и не очень, сильные и слабые. И часто боль все переворачивает с ног на голову — не выдержав боли, склоняет голову крепкий здоровый мужчина, и наоборот, стерпев боль, внешне неприметный человечек становится несгибаемым великаном.

Боль — один из самых примитивных и сильных манипуляторов. Ударяя маленького ребенка ремнем, родители наивно полагают, что, испугавшись боли, малыш тут же подчинится их воле. Проходит время, и подросшее дитя не боится физической боли, но его страшит боль унижения. Позже он сам начнет использовать это магическое первобытное орудие — угрозу болью.

Боль как лакмусовая бумажка быстро определяет приоритеты и расставляет все точки над "і". Когда болит зуб, кажется, что больше ничего на свете не нужно, кроме как избавиться от этого ужасного страдания. Но когда болит сердце у матери, недавно потерявшей сына, понимаешь, что все бытовые неурядицы и неприятности — лишь жалкая мелкая поросль в сравнении с непроходимым бурьяном материнской скорби.

Болью можно умело играть. Вызывать жалость, сочувствие, требовать повышенного внимания, поблажек и снисхождения. Больные со стажем иногда годами терроризируют своих близких бесконечными жалобами и вздохами... Боль — это и испытание перед самым концом. Сколько людей желает, чтобы смерть к ним пришла внезапно, без боли и мучений. Но боль *не выбирает* и боль *не выбирают*. Порой подлецу судьба дарует легкую безболезненную смерть на старости лет, а чистейшей души человек рано умирает от неизлечимой болезни и в страшных мучениях. Так неужели боль — это пропуск в лучшие миры? Несправедливо, не правда ли?

Боль... Резкая, пронизывающая, мучительная, тупая, пульсирующая, точечная, пакостная, непрерывная, тягостная, замыкающая, агрессивная, бледная, капризная, непокорная, яркая, красивая, уродливая, стойкая, убийственная, неприятная, спрессованная, драматическая, бессмысленная, жестокая, смертельная, встряхивающая, всесословная, избирательная, оскорбительная, разлагающая, господствующая, механическая, раздражающая, отключающая, обезличивающая, нарастающая, щемящая, божественно-пьянящая, бунтарская. Просто боль...

И все же... Не стоит так сильно страдать, когда болит зуб, голова, нога, сердце, все тело, даже, когда болит душа. Ведь только мертвым не больно...

Страшно !

# Так за что же их вешать?

Здравствуйте, "Народная воля"!

То, что почти ежедневно в теле- и радиопередачах льются оскорбления в адрес БНФ, оппозиции и тех, кто не согласен с политикой, проводимой в Беларуси, удивляться уже не приходится. Но в одной из радиопередач в конце апреля из уст выступающего прозвучали слова, которые встревожили не только меня, но и тех, кто их услышал. Они напомнили 1937 год.

А прозвучало вот что: БНФ, оппозиция и разные там демократы — это предатели, буржуазные отщепенцы, авантюристы и т.п. Их нужно держать в тюрьмах, вешать и вешать (эти слова повторялись несколько раз с каким-то восторгом).

Вот мы и задумались над тем, за что же их нужно вешать.

За то, что они хотят Беларусь вернуть к демократии, чтобы белорусы жили в независимом, нейтральном, безъядерном государстве, чтобы знали историю своих предков, чтобы без страха разговаривали на родном языке, чтобы Беларусь жила в союзе с Россией на равноправной основе, но не в федеральном составе и не была бы Северо-Западным краем. За то, чтобы вытянуть страну из экономической пропасти. Разве это не гражданский долг каждого честного человека, для которого Беларусь — родной дом?

Встает законный вопрос: почему молчат по поводу листовок РНЕ с фашистской символикой, расклеенных на столбах на высоте 3—4 метров в первомайские дни? А белорусов, которые против фашизма, нужно вешать? Видно, нашим властям нужны российские фашисты, а не белорусские демократы.

Наши историки и политологи убеждают нас в том, что только рука "старшего брата" спасет нас от мнимой войны и вытянет из пропасти нашу экономику. Зачем России нужна Беларусь, известно всем давно. Каждый царедворец России приложил руку к Беларуси. Сколько раз Беларусь была разменной монетой в руках российских правителей! Можно привести много примеров, как Россия тюрьмами и каторгами выводила "в люди" белорусов. Даже и сейчас планомерно, целенаправленно и под различным соусом, с помощью лживой пропаганды искореняется все белорусское.

**P.S.** *Уважаемая редакция! То, что я написал для газеты "Народная воля", — это не новость. Но становится страшно за свою Родину, за своих детей и внуков.*

**Ваш постоянный читатель**
**И.БОТЯНОВСКИЙ, житель г.Минска.**

Крымінал

# У Брэсцкай вобласці ўзрасла колькасць фактаў канфіскацыі незаконна набытай зброі

Пры спробе збыту зброі супрацоўнікамі брэсцкай міліцыі затрыманы 26-гадовы брэстчанін І., у якога пры вобыску быў канфіскаваны баявы пісталет "Чэзет" калібра 9 міліметраў з двума магазінамі па 15 патронаў у кожным. Вобыск, праведзены дома ў парушальніка закона, таксама даў свае вынікі: быў знойдзены нямецкі пісталет калібра 6,5 міліметра з магазінам і дзевяццю баявымі патронамі, якія таксама канфіскаваны. Супраць І. ўзбуджана крымінальная справа, пісталеты цяперашнім часам правяраюцца на прадмет "удзелу" ў злачынствах.

У апошнія гады на Брэстчыне павялічылася канфіскацыя незаконна набытай і захоўваемай грамадзянамі зброі. Так, толькі летась супрацоўнікамі праваахоўных органаў было канфіскавана 255 адзінак рознай зброі, 34 з іх — наразная, а таксама 4 тысячы патронаў да наразной зброі. За незаконнае захоўванне, нашэнне і збыт агнястрэльнай зброі і патронаў летась да крымінальнай адказнасці былі прыцягнуты 50 чалавек, 143 жыхары вобласці былі прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці за захоўванне і нашэнне без дазволу паляўнічых ружжаў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

# Спынена дзейнасць арганізаванай злачыннай групоўкі

У выніку сумеснай аперацыі, праведзенай супрацоўнікамі Упраўлення камітэтаў дзяржбяспекі па Магілёўскай і Гродзенскай абласцях, спынена дзейнасць арганізаванай злачыннай групоўкі, якая ажыццяўляла кантрабандны вываз каляровых металаў з Бабруйска (Магілёўская вобласць) у Літву. Пры перамяшчэнні праз мытную мяжу Беларусі 18,3 тоны лому каляровых металаў і 4 тон чорных металаў былі затрыманы з доказамі злачынства двое грамадзян Літвы і ўзбуджана крымінальная справа па артыкуле "кантрабанда".

**Кацярына АЎСЕЕНКА.**

